БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

14 мая 1994 г.
Субота
№ 51 (13768)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года



Малюе Віктар ДУБОВІК



*Ці стане хто аспрэчваць думку, што вымярэннем узроўню жыцця заўсёды былі, ёсць і будуць дзіцячыя вочы. Менавіта яны, вясёлыя і бесклапотныя, шчырыя і незайздросныя, падкажуць вам, на што хварэе іх грамадства.. Вочы нашых дзяцей сталі не па гадах дарослымі. Можа таму, што не страцілі яны яшчэ самай непатрэбнай зараз грамадскай эмоцыі — сораму?*

*А можа ўсё інакш? У кацёл, дзе "гатуецца" новае пакаленне, кінулі некалі забытыя спецыі — грошы. І жыццё прыняло новы смак, новае вымярэнне. А ў грамадстве, якое дазваляе ўсё, але па дарагому кошту, і дзеці будуць іншымі. Дарагімі, бо ўжо сёння іх з'яўленне на свет становіцца раскошай.*

*І "пераходны перыяд" ад дзяцінства да дарослага жыцця амаль знік, як зніклі для многіх дзяцей невялікія (і вялікія) радасці "шчаслівага дзяцінства". Шчаслівае — гэта ўжо як пашанцуе...*

**Майя ШЭНДРЫК.**
**Фота Жанны МАЁРАВАЙ.**



## Пасля падзеі

### СВЯТА, ЯКОЕ ЗАЎСЁДЫ З НАМІ

На гэтым тыдні мы адзначылі Дзень Перамогі. Шырока і ўрачыста сустрэў беларускі народ гэта свята.

Пачаўся святочны марафон з урачыстага вечара, які адбыўся 6 мая ў Цэнтральным доме афіцэраў Міністэрства абароны рэспублікі, дзе міністр абароны генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі сардэчна падзякаваў ветэранам за подзвіг і мужнасць. 7 мая кіраўнікі дзяржавы і ўрада Мячаслаў Грыб і Вячаслаў Кебіч наладзілі прыём у гонар Герояў Савецкага Саюза і кавалераў ордэна Славы трох ступеней. Адбылася размова аб праблемах ветэранаў. Былыя франтавікі выказалі сваю думку аб шляхах выхаду з крызісу, у якім зараз апынулася рэспубліка.

У Дзень Перамогі — 9 мая адбыліся ўрачыстасці ў Мінску. Да падножжа помніка-абеліска на плошчы Перамогі былі ўскладзены кветкі, вянкі, гірлянды Славы. У рытуале прынялі ўдзел дэлегацыі Вярхоўнага Савета на чале з яго Старшынёй М.Грыбам, Савета Міністраў на чале з прэм'ер-міністрам В.Кебічам, рэспубліканскай ветэранскай арганізацыі, міністэрства абароны, прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, духавенства. Мінутай маўчання пад журботны бой метранома ўдзельнікі рытуалу разам з тысячамі мінчан і гасцей сталіцы ўшанавалі памяць герояў і ахвяр Вялікай Айчыннай.

Раённыя калоны ветэранаў, якія сабраліся ў тую ж раніцу на плошчы Незалежнасці, пад маршы ваеннага аркестра прайшлі па праспекце Скарыны да плошчы Перамогі, дзе ўсклалі кветкі.

Ускладанні вянкоў адбыліся на Кургане Славы па Маскоўскай шашы, на мемарыяльным комплексе "Хатынь", ля стэлы "Мінск — горад-герой".

Мячэслаў Грыб і Вячаслаў Кебіч у той жа дзень наведалі шпіталь інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ў Бараўлянах. Яны ўручылі ветэранам святочныя падарункі, пажадалі хутчэйшай папраўкі і здароўя ім і іх сваякам.

Вянкі і кветкі ад удзячных жыхароў Беларусі ляглі да ўсіх помнікаў на воінскіх могілках, брацкіх магілах, пахаваннях у гарадах і вёсках рэспублікі.

Адбыліся мнагалюдныя святочныя гулянні ў парках і скверах, дзе ветэранаў, іх унукаў, усіх жадаючых частавалі салдацкай кашай з палявых кухняў, для іх давалі канцэрты лепшыя прафесійныя і самадзейныя творчыя калектывы рэспублікі.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Памяць на звалцы

*Ва ўрочышчы Чыстаполле, што ля самых Докшыц, некалі наладжваліся розныя гарадскія ўрачыстасці: святы песні, фальклору, адзначыліся памятныя даты. Толькі ж апошнімі гадамі ўрочышча закінулі, і пачала тут расці... звычайная бытавая звалка.*

Сцэнічная пляцоўка згніла. Яшчэ летась пры ўмяшанні гарсавета, інспекцыі па экалогіі і санітарнай службы тут парадак быў наведзены. А сёлета зноў у Чыстаполлі звалка.

**Уладзімір МІХНО.**

### Саюз чатырох

*Новая прафсаюзная структура — Аршанскае гарадское аб'яднанне прафсаюзаў — створана ў горадзе на Дняпры.*

Аб'ядналі свае намаганні ў справе абароны прафесійных інтарэсаў, сацыяльных правоў калектываў і членаў прафсаюзаў як пры прававой ахове, так і пры правядзенні дэманстрацый, пікетаванняў, забастовак і іншых акцый чатыры прафсаюзныя арганізацыі — заводаў "Чырвоны барацьбіт", прыбораў актыўнага кантролю, інструментальнага і вытворчага аб'яднання "Прамшвеймаш".

**Яўген БРАЖЫЦКІ.**

### Будзе помнік Міцкевічу

*Адкрыты конкурс на лепшы праект помніка вядомаму паэту Адаму Міцкевічу, аб'яўлены з 1 мая ў Гродна. Удзел у ім могуць прыняць асобныя аўтары і творчыя калектывы з усёй Беларусі.*

Помнік-бюст будзе ўстаноўлены ў абласным цэнтры на вуліцы Дзяржынскага, перад будынкам Саюза палякаў Беларусі.

Канкурсанты могуць прадстаўляць свае праекты ў галоўнае ўпраўленне СПБ да 1 кастрычніка 1994 года. Пераможцу чакае прэмія (500 даляраў ЗША) і рэалізацыя праекта.

**Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.**

### Хто зойме "электрычны стул"?

*Пра канкрэтную праграму работы чарговага з'езда Саюза моладзі Беларусі, які адкрыецца 4 чэрвеня ў Мінску, гаварыць яшчэ рана. Але што яго дэлегатам прыйдзецца вырашаць пытанне аб выбары новага лідэра гэтай грамадскай арганізацыі, можна сказаць з поўнай упэўненасцю ўжо зараз.*

Цяперашні першы сакратар СМБ Аляксандр Фядута, які рызыкнуў 2,5 года таму заняць гэты, як ён сам тады сказаў, "электрычны стул", прыняў катэгарычнае рашэнне вызваліць яго для іншага. Прычыну гэтага важак моладзі не ўтойвае. "У сувязі з занятай мной пазіцыяй у цяперашняй кампаніі па выбарах прэзідэнта рэспублікі ва ўладных структурах я стаў персонай нон-грата,— паведаміў ён карэспандэнту БЕЛІНФАРМА.— Не хачу, каб з-за мяне апынулася пад ударам уся арганізацыя".

### Дапамогі і даплаты для чарнобыльцаў

*Савет Міністраў рэспублікі прыняў пастанову "Аб размерах дапамог і даплат насельніцтву, якое пацярпела ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС".*

Для ўзмацнення сацыяльнай абароны людзей гэтым дакументам прадугледжваецца ўжо з 1 красавіка штомесячная грашовая дапамога ў памеры 6500 рублёў кожнаму члену сям'і ў зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем, у зоне з правам на адсяленне — 8500, а ў зонах наступнага і першачарговага адсялення ў — 13000 рублёў. Акрамя таго, уведзена новая фіксаваная даплата, размер якой залежыць ад ступені заражанасці мясцовасці.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Салжаніцын – аб славянскім саюзе

*Днямі знакаміты "дысідэнт № 1" Аляксандр Салжаніцын даў інтэрв'ю амерыканскаму часопісу "Форбс", у якім зноў паўтарыў сваю думку аб мэтазгоднасці новага аб'яднання трох славянскіх рэспублік былога Саюза.*

Маючы цвёрды намер вярнуцца гэтай вясной на Радзіму, Салжаніцын яшчэ ў 1990 годзе звяртаў увагу на неабходнасць утварэння новага славянскага саюза. І цяпер ён не змяніў сваіх поглядаў. У інтэрв'ю аўтар "Архіпелага ГУЛАГ" і "Чырвонага кола" падкрэсліў, што вядзе гаворку аб трывалым саюзе, а не аб кволай надуманай дзяржаве з "вялізным наднацыянальным бюракратычным апаратам".

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Увага, дзеці!

*У Ратамскай сярэдняй школе ў рамках аперацыі "Увага, дзеці!" адбыліся абласныя спаборніцтвы юных інспектараў руху.*

Як паведамілі ў ДАІ УУС Мінаблвыканкама, колькасць дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам і па віне дзяцей у веснавы і летні перыяды выклікае сур'ёзную занепакоенасць. Напрыклад, у Мінскай вобласці за студзень, люты і сакавік гэтага года адбылося 11 дарожна-транспартных здарэнняў. З іх па віне дзяцей — 5 выпадкаў. У выніку чатыры загінулі, восем — паранены. А вось толькі за адзін красавік — 28 дарожна-транспартных здарэнняў. З іх па віне дзяцей — 19. Загінулі шэсць, паранены — 25.

З гэтай нагоды Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскі камітэт беларускага таварыства Чырвонага Крыжа, абласны савет беларускага таварыства "Аўтамотааматараў" і ДАІ УУС Мінаблвыканкама арганізавалі спаборніцтвы, якія паспелі ўжо стаць традыцыйнымі.

У Ратамку з'ехаліся сем лепшых каманд юных інспектараў руху з Заслаўя, Дзяржынска, Вілейкі, Крупак, Клецка, Салігорска, Пухавіч. Вучні 6-8 класаў розных школ вобласці спаборнічалі ў веданні правілаў дарожнага руху, у навыках аказання першай медыцынскай дапамогі. Удзельнічалі ў конкурсах на лепшую насценную газету, уяўлялі сябе будучымі вадзіцелямі. Напружанай, захапляльнай і цікавай была велаэстафета.

Па колькасці набраных балаў наперадзе аказалася каманда клецкай СШ № 3. Менавіта гэтыя юныя інспектары руху з 24 мая прымуць удзел у чатырохдзённых рэспубліканскіх спаборніцтвах у Віцебску.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Эксперты ЕС – у Мінску

*Беларускую сталіцу наведала дэлегацыя экспертаў — прадстаўнікоў Еўрапейскага Саюза. Адбыліся сустрэчы з парламентарыямі і спецыялістамі ў галіне дзяржаўнага права.*

Адной з галоўных тэм такіх сустрэч стала абмеркаванне пытанняў, звязаных з абаронай замежных інвестыцый. Увазе беларускага боку было прадстаўлена больш як два дзесяткі тэкстаў адпаведных заканадаўчых актаў розных краін свету.

Падобныя сустрэчы ў далейшым набудуць рэгулярны характар. Эксперты ЕС дапамогуць у падрыхтоўцы дзяржаўнага кодэкса, распрацоўцы блокаў законаў "другога пакалення". У ліку прагматычных сумесных праектаў — перакваліфікацыя айчынных кадраў юрыстаў у Галандыі, Германіі, ЗША.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Курсы валют на 13 мая:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 16000 | 16500 | 9590 | 9890 |
| "Пошук" | 16000 | 16500 | 9500 | 10000 |
| "Прыор" | 15900 | 16300 | 9500 | 9800 |

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ

# І ў хор увальецца голас твой

*У дзень выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь нямала нашых грамадзян будзе знаходзіцца за мяжой. Але ім, безумоўна, не ўсё роўна, хто зойме такую высокую пасаду. У сувязі з гэтым калегія Міністэрства замежных спраў стварыла рабочую групу для арганізацыі і правядзення выбараў за мяжой. Аб тым, як будзе праходзіць там выбарчая кампанія, карэспандэнт БЕЛІНФАРМА папрасіў расказаць кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Беларусі Пятра КРАЎЧАНКУ.*

**— Пётр Кузьміч, у якіх краінах грамадзяне Беларусі прымуць удзел у выбарах першага прэзідэнта рэспублікі?**

— Паводле інфармацыі, што паступіла на сённяшні дзень, выбарчыя ўчасткі будуць створаны ў Гаазе, Жэневе, Парыжы, Вене, Варшаве, Беластоку, Гданьску, Нью-Йорку, Вашынгтоне, Боне, Берліне, а таксама ў Літве.

У адпаведнасці з Законам аб выбарах і пастановай Цэнтральнай камісіі выбарчы ўчастак стварaецца пры наяўнасці дваццаці і больш выбаршчыкаў. Напрыклад, на сённяшні дзень у Пекіне, Тэль-Авіве, Рыме, Лондане і Сафіі няма такой колькасці выбаршчыкаў, таму выбары там праводзіцца не будуць. Аднак грамадзяне Беларусі, якія пражываюць у гэтых краінах, маюць магчымасць прыняць удзел у выбарах у любой дзяржаве, дзе будзе створаны выбарчы ўчастак. У Кіеве, напрыклад, таксама няма такой колькасці грамадзян Беларусі, але яны па ўзгадненню з Цэнтральнай камісіяй па выбарах прэзідэнта будуць галасаваць у адным з раёнаў Гомельскай вобласці. Такая ж сітуацыя і з работнікамі пасольстваў і консульстваў.

**— Ці ёсць якія-небудзь папярэднія даныя аб колькасці беларусаў, што прыйдуць на выбарчыя ўчасткі за мяжой?**

— Мы можам гаварыць толькі аб тых грамадзянах нашай рэспублікі, якія знаходзяцца на пастаянным уліку ў пасольствах і консульствах. Гэта прыкладна каля 1000 чалавек. Але спісы будуць складацца напярэдадні выбараў. За гэты час у многіх краінах могуць паявіцца грамадзяне Беларусі, скажам, якія прыехалі на работу па кантракту. Як пастаянна пражываючыя ў гэтай краіне яны на консульскім уліку могуць і не знаходзіцца, але як часова пражываючыя, па іх жаданню, будуць унесены ў спісы.

**— Колькі будзе каштаваць правядзенне выбараў першага прэзідэнта рэспублікі за мяжой?**

— Справа ў тым, што ў асноўным усе дакументы рыхтуюцца на месцы, у тым ліку і бланкі спісаў выбаршчыкаў, і бюлетэні для галасавання. Паколькі тэрміны іх пастаўкі нязначныя, а, на вялікі жаль, у нас няма пастаянна дзеючай дыпламатычнай пошты і дыпкур'ераў, узоры мы пашлём па факсу. Акрамя таго, усё, ад кабіны да ўрнаў, прыйдзецца вырабляць на месцы, таму што іх у Вашынгтон не павязеш. Пакуль жа для правядзення выбарчай кампаніі за мяжой Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта выдзеліла ўсяго 10 мільёнаў беларускіх рублёў, а неабходна прыкладна 160 мільёнаў.

Складанасць яшчэ і ў тым, што грамадзяне Рэспублікі Беларусь у замежных краінах жывуць не на адной вуліцы і нават не ў адным горадзе. І тут могуць узнікнуць пытанні з коштам праезду да месца галасавання.

# З прагнозамі лепш пачакаць

☐ **Андрэй ВАСІЛЕВІЧ, "ЧЗ"**

Завяршаецца адзін з найважнейшых этапаў перадвыбарнай прэзідэнцкай кампаніі — заўтра ініцыятыўныя групы павінны падвесці вынікі па збору подпісаў на карысць сваіх прэтэндэнтаў. Гаварыць пра нейкія канкрэтныя лічбы пакуль цяжка, бо ў азарце барацьбы некаторыя наваспечаныя прапагандысты займаліся звычайнымі прыпіскамі, што, на іх погляд, паддавала імпэту грамадзянам, а некаторыя проста маўчалі.

Праз некалькі дзён стане вядома, хто чаго варты. Канешне, не выклікае сумнення, што Вячаславу Кебічу няма чаго хвалявацца. На яго працавала велізарная група выканкамаўскіх чыноўнікаў.

Такім чынам, каманда прэм'ер-міністра, безумоўна, выкарыстае выгады яго службовага становішча. Тым больш, што ў красавіку пад час нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета былі сабраны подпісы каля 200 дэпутатаў.

Характэрна, што ніхто з астатніх прэтэндэнтаў, акрамя Вячаслава Кебіча і Генадзя Карпенкі, не рызыкнуў шукаць паразумення сярод дэпутатаў. Калі прэм'ер-міністру было проста ажыццявіць такія захады (усё-ткі ў Вярхоўным Савеце значная колькасць яго непасрэдных падначаленых), то старшыні Маладзечанскага гарсавета прыйшлося ўключыцца ў напружаную агітацыйную кампанію. У асноўным за падтрымку кандыдатуры Карпенкі выказаліся тыя дэпутаты, якім уласціва палітыка цвярозага розуму. Сярод іх вядомы сваімі прынцыповымі выкрываннямі розных махінацый у армейскім асяроддзі намеснік старшыні Кантрольнай палаты Васіль Даўгалёў (дарэчы, менавіта яго матэрыяламі аб непарадках у ваеннай транспартнай авіяцыі і іншымі карыстаецца Аляксандр Лукашэнка), прадстаўнік салігорскіх шахцёраў Уладзімір Сапронаў, шліфоўшчык з Маладзечна Віктар Уласенка, старшыня пастаяннай камісіі Пётр Міцько, паэт Ніл Гілевіч, старшыня пастаяннай камісіі Леанід Козік (ён меў і сам намер папытаць шчасця ў выбарах, але вырашыў аддаць свой голас Карпенку)...

Такім чынам, Генадзь Карпенка, незалежна ад колькасці подпісаў грамадзян будзе канкурэнтам Вячаслава Кебіча.

Ёсць спадзяванні, што набяруць неабходную колькасць Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч. На мой погляд, перабольшанымі могуць быць звесткі аб шырокай падтрымцы, грамадзянамі такой невядомай фігуры, як прадстаўнік камуністаў Васіль Новікаў. Ён у дадзеным выпадку становіцца, хутчэй за ўсё, ахвярай палітычнай гульні, бо спадзявацца, што кангрэс народнага руху Беларусі аддасць перавагу яму, а не прэм'ер-міністру няма ніякіх падстаў.

Папулярнасці, якой хапае ў Аляксандра Лукашэнкі, можа не хапіць, каб быць унесеным у спісы. Апошнім часам усяляк мусіруецца інфармацыя аб быццам бы маючым месца вераломстве з боку славянскай арганізацыі "Белая Русь". Паводле ацэнак некаторых дасведчаных аглядальнікаў адыход групы зборшчыкаў можа каштаваць Лукашэнку каля 40 тысяч недабраных подпісаў.

Але гэта толькі прадказанне. Кіраўнік ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі старшыня пастаяннай камісіі Дзмітрый Булахаў ухіліўся ад ацэнак. Гэта можна зразумець. Сам жа Дзмітрый Булахаў аддаў свой дэпутацкі подпіс на карысць Генадзя Карпенкі. Жэст можна расцаніць як высакародны (няхай будзе больш сапернікаў — мы не баімся) і як звычайнае прадбачлівае рашэнне (хто ведае, каму быць пераможцам).

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

Дзяжурны па выпуску — Я. ЯСЭПКІН.

### "Еўраньюс"

#### Агонь ля святых сцен

*Атрады "чырвоных кхмераў" пачалі атакі на пазіцыі ўрадавых войск Камбоджы ўсяго ў 10 кіламетрах ад храмавага комплексу Ангор-Ват.*

Славутаму архітэктурнаму помніку XI стагоддзя за час грамадзянскай вайны ўжо нанесены значны ўрон.

#### Ці вернецца Арыстыд?

*Адміністрацыя Біла Клінтана зноў пацвердзіла намеры паслаць амерыканскія войскі на Гаіці, незалежна ад таго, ці будзе заменены з дапамогай міжнародных санкцый кіруючы цяпер на гэтым востраве ваенны рэжым.*

### "TV-5"

Міжнародныя санкцыі супраць ваенных улад на Гаіці ўступяць у сілу 21 мая. Адміністрацыя Клінтана адхіліла прапанову судовых органаў Гаіці абраць новага кіраўніка дзяржавы замест звергнутага ваеннымі прэзідэнта Арыстыда.

#### У ролі пасрэдніка

*Дыпламатычныя крыніцы ў Вашынгтоне паведамілі, што Пекін прапанаваў свае пасрэдніцтва ў адносінах паміж дзвюма Карэямі.*

У прыватнасці, кітайскае кіраўніцтва прапаноўвае арганізаваць сустрэчу паміж прэзідэнтам КНДР Кім Ір Сенам і прэзідэнтам Рэспублікі Карэя Кім Ен Самам для вырашэння "ядзернага крызісу" на Карэйскім паўвостраве.

### "Уорлднэт"

#### Завод ...за даляр

*Унікальны выпадак зафіксаваны ў працэсе прыватызацыі балгарскіх прадпрыемстваў. Завод па вытворчасці магнітных галовак у горадзе Разлог быў прададзены кіраўніку амерыканскай фірмы "Дызайн рывю інтэрнэйшнл" Уільяму Куперу за... адзін даляр.*

Такую беспрэцэдэнтную суму ён заплаціў за права мець 80 працэнтаў акцый. Сакрэт у тым, што пакупнік узяў на сябе і аплату ўсіх даўгоў прадпрыемства.

#### Хваля тэрору

*Пасля некалькіх дзён адноснага зацішша па індыйскім штаце Джаму і Кашмір зноў пракацілася хваля тэрору.*

У выніку сутыкненняў паміж сіламі бяспекі і баевікамі розных мусульманскіх груповак там загінула сама меней 20 чалавек. Сапраўдны бой разгарэўся ў адной са школ у горадзе Пулвама, дзе баевікі спачатку абстралялі нарад ваеннаслужачых, а потым закідалі яго гранатамі.

### "Суперчэннэл"

#### Фармацэўты на дрэвах

*Некаторыя прадстаўнікі жывёльнага свету валодаюць дзіўнымі здольнасцямі знаходзіць для сябе раслінныя лекавыя сродкі.*

У Танзаніі малпы часцяком вышукваюць якую-небудзь расліну, што не з'яўляецца для іх ежай, і цалкам заглытваюць яе лістоту. Лабараторныя даследаванні паказалі, што ў іх утрымліваецца алей, які знішчае кішэчных паразітаў і грыбкі.

#### Новы Джэк–Патрашыцель

*У аўстрыйскім горадзе Штырскі Градзец пачаўся "працэс стагоддзя" над Джэкам Унтэрвагерам, які абвінавачваецца ў тым, што за кароткі час забіў адзінаццаць жанчын. Злачынствы ён ажыццяўляў у Аўстрыі, ФРГ, ЗША і Чэхаславакіі.*

За першае забойства 18-гадовай Маргет Шэфер злачынца атрымаў пажыццёвае зняволенне. Скончыўшы ў турме сярэднюю школу, Унтэрвагер заняўся літаратурнай працай. Яго аўтабіяграфічная аповесць стала бестселерам. Вясной 1990 года вязня-пісьменніка выпусцілі на волю. І амаль адразу ў Аўстрыі пачаліся новыя забойствы. Цяпер Джэк-Патрашыцель зноў узяты "пад варту". Суд працягнецца да чэрвеня.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## ХІМІЯ – І НА ЗАХАДЗЕ ХІМІЯ

Днямі нашу рэспубліку наведалі прадстаўнікі канцэрна BASF і фірмы Kali und Salz з Германіі. Гэты візіт яшчэ раз пацвердзіў той факт, што прадукцыя беларускага нафтахімпрама па-ранейшаму карыстаецца высокім попытам у нямецкіх бізнесменаў. Кіраўнік прадстаўніцтва BASF у Мінску пан Харм Вольф выказаў зацікаўленасць у куплі хімікатаў і адначасова прапанаваў у межах супрацоўніцтва з адпаведнымі прадпрыемствамі Беларусі праект па мадэрнізацыі прамысловай устаноўкі па вытворчасці аміяку на ВА "Азот" у Гродна.

## ЦЭНТРУ МІЖНАРОДНАГА ГАНДЛЮ – БЫЦЬ

Паводле пагаднення Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкама і Гандлёва-прамысловай палаты, пры актыўным удзеле германскага Таварыства па садзеянню эканамічнаму развіццю Беларусі, пачаліся падрыхтоўчыя работы, каб здзейсніць будаўніцтва ў Мінску Беларускага цэнтра міжнароднага гандлю. Ужо распрацавана разам з нямецкімі спецыялістамі тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне, знойдзены патэнцыяльныя інвестары і будаўнікі, атрымалі "дабро" і ад урадавых органаў Германіі.

Цэнтр міжнароднага гандлю створыць аптымальныя ўмовы для плённай працы і адпачынку замежных бізнесменаў і, такім чынам, паспрыяе прыцягненню ў Беларусь замежных інвестыцый, што, зразумела, паскорыць развіццё нашай эканомікі.

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ПРАЦУЮЦЬ НА БУДУЧЫНЮ

Сёння Саюз прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь абараняе інтарэсы больш як 120 тысяч бізнесменаў краіны, якія маюць сур'ёзны намер узяцца за вырашэнне праблем нашага жыцця. Разам з тым існуе і міжнародная праграма падтрымкі прыватнага сектара рэспублікі. Паводле слоў старшыні СП У.Карагіна, менавіта на гэта Сусветны банк выдзеліў 70 мільёнаў даляраў. Зараз Саюз прадпрымальнікаў разглядае шэраг прапаноў шматлікіх заходніх фірм. Калі беларускія бізнесмены здолеюць карысна распарадзіцца атрыманымі далярамі, то ў будучым сусветны капітал можа даць ім у 10 разоў больш.

Уладзімір Мікалаевіч расказаў і аб праграме Інтэграцыі навукова-даследчага сектара ў сусветны рынак. Апрацоўваюцца канкрэтныя прапановы па прыцягненню новых замежных інвестыцый.

Шмат зроблена па рэалізацыі Праграмы рэформы сістэмы кіравання ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Міжнародным цэнтрам бізнес-камунікацый і іншымі арганізацыямі заходніх краін. Магчыма, у хуткім часе на беларускіх прыватных прадпрыемствах пачнуць працаваць замежныя менеджэры, што паспрыяе ўдасканаленню дзейнасці спецыялістаў, якія кіруюць нашай народнай гаспадаркай.

Як сказаў лідэр беларускіх прадпрымальнікаў, у рэспубліцы трэба вырашыць шмат палітычных пытанняў. Калі прыняць за аксіёму тое, што палітыка — гэта канцэнтраваны выраз эканомікі, то ўсё павінна вызначаць тая эканамічная сістэма, прыхільнікамі якой з'яўляюцца прадпрымальнікі, прадстаўнікі рынкавых структур. За імі — будучыня.

**Валерый КАЛЕСНІКАЎ.**

## ДАРЭЧЫ...

З 20 мая ў Вялікабрытаніі знімаецца з абарачэння банкнота 10 фунтаў стэрлінгаў выпуску 1975 года. (На зваротным баку купюры — партрэт Флорэнс Найцінгейл). Аднак і ў далейшым прыём гэтых банкнот будзе працягвацца аддзяленнямі англійскіх банкаў, бо яны застануцца законным плацежным сродкам для банка Англіі.

ЭКАНОМІКА

# У рынак выйшаў карабель-ліцэй

□ Яўгенія ВІЦЬБА

*Рыначная эканоміка для многіх сёння застаецца нечым незразумелым і небяспечным. Больш вобразна — нейкай неўтаймаванай марской стыхіяй, дзе можна затануць і быць выкінутым з жыцця ў любы момант. Гэтыя ўяўленні небеспадстаўна блізкія да сапраўднасці, паколькі ўсе мы знаходзімся ў крызіснай эканамічнай сітуацыі, у нейкім падвешаным стане, калі не адышлі ад былых нормаў гаспадарання і калі не ўзялі рашучы напрамак на іх рэфармаванне.*

Тым не менш, само жыццё прымушае шукаць шляхі выхаду з эканамічнай неразбярыхі і нават маральнай разгубленасці, якая ў пэўнай ступені адносіцца да моладзі. Апякунства бацькоў і дзяржавы ў недалёкім мінулым на сёння зрабіла многіх маладых людзей непрыстасаванымі да жыцця. З гэтай прычыны, калі яшчэ дадаць вымушанае беспрацоўе ды цяжкасці з працаўладкаваннем, актыўна з маладзёжнага асяродка пачалі фарміравацца злачынныя элементы і нават вялікія групоўкі, што не на карысць ні грамадзянам, ні дзяржаве.

Разуменне гэтага паставіла задачу мэтанакіраванай работы па арыентацыі моладзі ва ўмовах рынкавых адносін з разлікам на аддачу ў будучыні. І хоць сённяшнія юнакі і дзяўчаты не зробяць усіх шчаслівымі і багатымі праз год ці дзесяць гадоў, права на пошук свайго месца ў жыцці, на пошук выхаду з эканамічнага тупіка прадастаўляецца менавіта ім.

Падрыхтоўку кадраў, здольных працаваць на рынкавыя адносіны, узяў на сябе Міжнародны інстытут менеджменту, што заснаваны на базе сумеснага Беларуска-Германскага прадпрыемства. Яго цэнтр узнік у Мінску ў сакавіку 1992 года, а ў жніўні былі арганізаваны філіялы ў многіх гарадах рэспублікі.

Адзін з такіх філіялаў з'явіўся ў Віцебску. Работа распачалася на двух напрамках: перападрыхтоўцы спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй і падрыхтоўцы моладзі з ліку навучэнцаў сярэдніх школ. Так у горадзе стварыўся эканамічны ліцэй, у якім нядаўна адбыўся першы выпуск. Зразумела, ліцэісты адзначылі ўрачыстасць, хоць балю "ў родных пенатах" з нагоды атрымання сертыфікату міжнароднага ўзору і права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю не атрымалася. У ліцэя пакуль што няма ўласнага будынка, і ён кватаруе ў некалькіх памяшканнях іншага прызначэння.

— Мы плануем стварыць цэлую сістэму эканамічнай адукацыі ў горадзе, — расказала загадчыца ліцэя Галіна Цімафееўна Каротчанка. — Ужо ёсць дамоўленасць, што дзве спецыяльнасці — маркетынг і менеджмент — пачнуць вывучацца ў мясцовым палітэхнікуме. Туды, па жаданню, без экзаменаў будуць залічвацца ліцэісты. Вядуцца перамовы з тэхналагічным інстытутам, дзе можна б было займацца з трэцяга курса пасля тэхнікума. Сённяшні ж курс ліцэя пакуль што ўяўляе падрыхтоўчую стадыю для арыентацыі ў законах рынкавых адносін.

Гэтыя законы складаныя, і разабрацца ў іх таксама няпроста. Тым не менш, для 73 юнакоў і дзяўчат з розных школ Віцебска, што адначасова на працягу двух гадоў былі ліцэістамі, жыццёвы выбар набыў акрэслены накірунак і надзею.

Абараніўшы выпускную работу па адной з трох тэм — маркетынгу, асновах знешнеэканамічнай дзейнасці, бухгалтарскаму ўліку і падаткаабкладанню, — яны набылі веды па самых розных і жыццёва неабходных дысцыплінах, аб якіх, на жаль, нават не здагадваюцца многія іх равеснікі: асновы рынкавай эканомікі, асновы прадпрымальніцтва, камп'ютэрная тэхніка і сучасная інфармацыйная тэхналогія, дзелавая замежная мова (англійская і французская), культура мовы дзелавога чалавека, псіхалогія і этыка дзелавых узаемадачыненняў, краіназнаўства, прававыя асновы бізнесу Рэспублікі Беларусь, мастацкая культура Беларусі...

Гэта — дадатковыя веды да аб'ёму школьных праграм, і таму за навучанне ў ліцэі трэба плаціць, як, у прыватнасці, і высокакваліфікаваным спецыялістам, што чытаюць лекцыі па 4 гадзіны тры разы на тыдзень. У сувязі з інфляцыяй аплата штогод узрастае. Напрыклад, з 58 тысяч за год, на пачатак адкрыцця ліцэя, да 240 тысяч у мінулым годзе. Але набор тых, хто жадае набыць эканамічную падрыхтоўку, не зніжаецца. Першы курс чарговага набору ўжо склаў 90 чалавек.

— Гэта не элітарны ліцэй для таўстасумаў, — гаворыць Г.Ц.Каротчанка. — Элітарны ён, хутчэй за ўсё, у плане інтэлектуальнай скіраванасці моладзі, яе псіхалагічных установак на дзейнасць у эканамічнай сферы. Ні за якія грошы не зробіш прадпрымальніка-кіраўніка з таго, хто псіхалагічна няздольны да стрэсавых сітуацый, хто не валодае прыроджаным мастацтвам узаемаадносін з людзьмі.

У нас, акрамя жадання падлеткаў і іх бацькоў, нават з грашыма свая асаблівая і даволі строгая сістэма падбору будучых ліцэістаў. Акрамя экзаменаў — псіхалагічнае тэстыраванне па вызначэнню параметраў асобы, вызначэнне аб'ёмаў памяці тэстыруемых і іх здольнасці пераключаць увагу. Толькі пасля ўсяго з бацькамі заключаюцца адпаведныя дагаворы. Чатыры ж нашыя ліцэісты, выключна здольныя, з адпавядаючымі псіхалагічнымі параметрамі, атрымліваюць бясплатную падрыхтоўку. Дзве дзяўчынкі, напрыклад, — сіроты, і мы самі дзеля іх "выйшлі" на прадпрыемствы, дамовіліся, каб апошнія прафінансавалі вучобу.

Сёння, у такой складанай эканамічнай і палітычнай абстаноўцы, цяжка адназначна сказаць аб далейшых перспектывах усёй нашай эканамічнай адукацыі, тым больш той, што скіроўваецца на законы рынку, які пакуль што развіваецца дзіка, нецывілізавана і прымітыўна, з вострым недахопам спецыялістаў, якія прывялі б хоць да нейкага ладу неразбярыху пераходнага перыяду. А яны, спецыялісты, могуць з'явіцца толькі з асяроддзя моладзі. Таму, думаецца, падобныя ліцэі проста жыццёва неабходныя, і з гэтым пагаджаюцца ўсе, хто непакоіцца і за наша матэрыяльнае становішча, і за маральны клімат у грамадстве.

Калі ж гаварыць адносна бацькоў ліцэістаў, дык яны проста ўдзячныя маладым вучоным Віцебскага тэхналагічнага інстытута, якія выкладаюць эканамічныя дысцыпліны. Сярод іх І.Ю.Бачко, С.Б.Тарасевіч, Г.А.Яшава, а таксама ўдзячныя дактарам эканамічных навук І.Д.Прахарэнку і Л.М.Давыдзенку з Белдзяржуніверсітэта, іншым вядучым спецыялістам у галіне эканомікі з беларускай сталіцы.

*Вясновая рапсодыя*

Фота Жанны МАЁРАВАЙ.

БУДЗЕМ ЗДАРОВЫЯ

# Ну, падумаеш, укол!

## Або аб тым, як адмова ад звычайнай прышчэпкі стала прычынай каварнай эпідэміі

□ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*Як захаваць здароўе нашых дзяцей? Як распазнаць першыя прыкметы хваробы і аказаць дапамогу дома? У якіх выпадках трэба тэрмінова звяртацца да дзіцячага доктара? Што зараз вельмі хвалюе айчынных педыятраў і аб чым яны маюць намер папярэдзіць бацькоў? Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні рэдакцыі дапамогуць спецыялісты розных галін педыятрыі.*

*Сёння ў нас у гасцях дацэнт, загадчык кафедры дзіцячых інфекцыйных хвароб Мінскага медыцынскага інстытута, галоўны дзіцячы інфекцыяніст Міністэрства аховы здароўя Беларусі Анатоль Архіпавіч АСТАПАЎ.*

Хвароба, аб якой пойдзе размова, здавён палохала кожную маці. Існавала нават прыкмета: пакуль малое не перанясе гэтую страшную немач, нельга спадзявацца, што яно вырасце жывым і здаровым. І толькі потым, калі дзіця, перахварэўшы, зразумела, выжывала, бацькі яго лічылі па-сапраўднаму сваім: назад хвароба не вярталася. Такой каварнай і небяспечнай сілай валодае дыфтэрыя.

На гэтую інфекцыю цывілізаваны свет, здавалася, і забыўся. Навуковая медыцына вынайшла сродак супраць яе, людзям пачалі рабіць прышчэпкі, якія поўнасцю засцерагалі арганізм ад небяспекі. Эпідэміі дыфтэрыі сталі рэдкасцю, а маладыя мамы ўжо не вызначаліся пільнасцю на гэты конт, многія пачалі лічыць прышчэпку супраць дыфтэрыі справай залішняй...

А хвароба быццам бы толькі гэтага і чакала. Яна заявіла аб сабе на поўную моц зусім нядаўна на тэрыторыі былога СССР. Калі раней выпадкі дыфтэрыі рэгістраваліся пераважна ў дарослых, то цяпер ад яе цярпяць дзеці.

— За апошнія тры гады, — гаворыць Анатоль Архіпавіч Астапаў, — толькі па Украіне зарэгістраваны тысячы хворых. У Расіі гэтая колькасць пераўзышла ўжо дзесяткі тысяч. Асабліва высокі працэнт захворванняў у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Калінінградскай вобласці. Блізкасць гэтых тэрыторый да Беларусі апошнюю таксама паставіла пад удар. Раней у нашай рэспубліцы абстаноўка па стану інфекцыйных захворванняў была нармальнай, і пасля Прыбалтыкі мы лічыліся самай чыстай у гэтым сэнсе зонай. Цяпер жа сітуацыя рэзка пагоршылася. У 70-я гады, напрыклад, у Беларусі рэгістраваліся 1-2 выпадкі дыфтэрыі. Летась гэты паказчык вырас амаль у сто разоў.

Такая пагражальная абстаноўка на Усходзе ўстрывожыла медыцынскую грамадскасць Захаду.

У ліпені 1993 года рэгіянальнае бюро Сусветнай арганізацыі аховы здароўя правяло ў Санкт-Пецярбургу міжнародную нараду пад назвай "Эпідэмія дыфтэрыі ў Еўропе". Прадстаўнік Фінляндыі, выступаючы на ёй з дакладам, паведаміў, што ў іх краіне выяўлены адзін выпадак захворвання на дыфтэрыю. Прычым чалавек прыязджаў у Санкт-Пецярбург і быў інфіцыраваны там. Прадстаўнік Польшчы праінфармаваў аб сямі выпадках дыфтэрыі. Усе захварэўшыя заразіліся на граніцах з Расіяй і Украінай, у месцах, дзе жвава ішоў гандаль.

Хаця факты захворванняў грамадзян у гэтых краінах адзінкавыя, усё ж іх палічылі настолькі важнымі, каб данесці да шырокага кола грамадскасці. І невыпадкова.

Дыфтэрыя небяспечная не толькі тым, што цяжка распазнаецца. Яна хутка распаўсюджваецца па вялікіх тэрыторыях. Прычым, скрытай крыніцай інфекцыі з'яўляюцца людзі, якія ўтрымліваюць у арганізме дыфтэрыйную палачку. Самі па сабе яны могуць быць і здаровымі, але для тых, хто не мае прышчэпак супраць дыфтэрыі, зносіны з бактэрыяносьбітамі могуць скончыцца трагічна. Да вакцынацыі ж у краінах СНД, як сведчаць факты, пачалі адносіцца без асаблівай пачцівасці.

Тыя ж фіны прышчэпліваюць супраць дыфтэрыі 99,5 працэнта дзяцей, таму на ўсю краіну ў іх знайшоўся толькі адзін хворы. У нас жа колькасць апошніх вылічваецца ўжо сотнямі. У асноўным гэта дзеці, чые бацькі адмаўляюцца ад прафілактычных прышчэпак. Адбываецца, як гавораць медыкі, зніжэнне калектыўнага імунітэту. Сярод насельніцтва з'явілася шмат людзей, якія былі ўспрымальныя да дыфтэрыі, і крывая захворванняў пачала рэзка ўзрастаць.

Чым жа так "правінілася" прышчэпка супраць дыфтэрыі, што ёй пачалі грэбаваць? На думку А.А.Астапава, прычын гэтага некалькі. Даволі спакойная ранейшая сітуацыя па дыфтэрыі паспрыяла таму, што верх узяло меркаванне, па якім дзецям можна і не рабіць прышчэпкі. Нават самі медыкі ў старых інструкцыях занадта павялічылі колькасць супрацьпаказанняў для вакцынацыі, а таму "падскочыў" лік і медыцынскіх адводаў ад прафілактычных прышчэпак. Пэўную негатыўную ролю адыгралі публікацыі ў друку, дзе гаварылася, што вакцыны супраць дыфтэрыі таксічныя і дрэнна пераносяцца дзецьмі.

— Апошняе — яўнае перабольшванне. Супрацьдыфтэрыйная вакцына выкарыстоўваецца ва ўсім свеце, і там, дзе 98-99 працэнтаў дзяцей маюць прышчэпкі, страшная хвароба не развіваецца, — такую думку выказаў галоўны дзіцячы інфекцыяніст рэспублікі.

Гэта немач надзвычай каварная. Яна пачынаецца, як звычайная ангіна. Павышаецца тэмпература, з'яўляецца боль у горле пры глытанні, на міндалінах бачны своеасаблівыя налёты. На гэтай стадыі хваробы не кожны ўрач паставіць дакладны дыягназ. Вялікая верагоднасць памылкі асабліва тады, калі няма падстаў думаць, што па тэрыторыі "гуляе" дыфтэрыя. Затрымка ў спецыяльным лячэнні дае хваробе магчымасць развівацца далей, перайсці ў наступную стадыю. Налёты, якія спачатку з'явіліся на міндалінах, пачынаюць распаўзацца на бліжэйшыя тканкі. Дыфтэрыя дасягае цяжкай формы. У вобласці шыі развіваецца ацёк. Прычым ён бывае настолькі выражаны, што ацякае не толькі шыя, але і грудная клетка ажно да мечападобнага адростка. Дзіця не можа дыхаць, навідавоку інтэксіфікацыя арганізма, выкліканая тым, што пры дыфтэрыі паражаюцца жыццёва важныя сістэмы. Развіваецца міякардыт, парушаецца работа перыферычнай нервовай сістэмы, нырак, наднырачнікаў, з'яўляюцца паралічы. Да паражэння ўсіх гэтых органаў прыводзіць таксін, які выдзяляе дыфтэрыйная палачка. Яго і трэба нейтралізаваць як мага хутчэй, спыніць дзеянне на тканкі. Вось чаму так важна, каб дыягназ быў пастаўлены хутка і правільна. Чым раней будзе ўведзена супрацьдыфтэрыйная сываратка, тым больш шанцаў, што не пачнуцца цяжкія ўскладненні, ад якіх дзіця можа загінуць. Лік ідзе літаральна на гадзіны. Толькі ў першыя двое сутак з гэтай хваробай можна змагацца больш-менш паспяхова. "Кожнае чацвёртае дзіця пры позняй дыягностыцы ў яго дыфтэрыі памірае", — адзначае А.А.Астапаў.

Цяпер, калі гэта хвароба актыўна заявіла аб сабе на нашай тэрыторыі, медыкі адчуваюць насцярожанасць пры падобных сімптомах. Акрамя таго, інфекцыяністы праводзяць даволі шырокае кола мерапрыемстваў, каб даць асноўныя клінічныя сімптомы дыфтэрыі для іншых спецыяльнасцей. Бывае дыфтэрыя гартані, вачэй, носа, скуры. Профільныя ўрачы, ведаючы гэта, змогуць своечасова ліквідаваць ачаг інфекцыі. Менавіта такая пільнасць дапамагла летась хутка адолець эпідэмію ў Магілёве. 16 чалавек з дыфтэрыяй былі шпіталізаваны ў горадзе. На шчасце, гэта было зроблена своечасова, і ніхто з захварэўшых не загінуў.

Але ці варта чакаць, калі бяда пастукае ў ваш дом? Трэба хоць раз было бачыць адчай урачоў, якія аказваліся бяссільнымі перад хваробай, што забірала жыццё ў дзіцяці. "Здаецца, і рукі пад яго падклаў бы, каб аблегчыць пакуты", — падсумоўвае гэтую частку нашай размовы Анатоль Архіпавіч Астапаў.

Звычайная прышчэпка захавае жыццё і здароўе вашага дзіцяці. Першы раз яна робіцца малому ў трохмесячным узросце. Поўнымі супрацьпаказаннямі могуць служыць толькі цяжкія хранічныя захворванні і дзіцячы цэрэбральны параліч. Часовымі — вострыя інфекцыйныя захворванні, але ў гэтым выпадку праз месяц-два прышчэпку можна рабіць. Потым вакцынацыя паўтараецца яшчэ некалькі разоў. І кожны з іх — гэта гарантыя, што шанцаў захварэць на дыфтэрыю застаецца ўсё менш. А, здавалася б, просты ўкол...

МОЛАДЗЬ І ЧАС

# Па вясёлцы сяброўства

Ці ведаеце вы, што зусім нядаўна ў Кіеве з'явілася новая арганізацыя славянскіх народаў? Яе назва — "Фундацыя", ад французскага слова "фундасьен" — фундамент, аснова. І гэта сапраўды аснова — вялікай дружбы, шчаслівай будучыні. Бо наша будучыня — гэта дзеці, а "Фундацыя" — дзіцячае аддзяленне ЮНЕСКО, што цалкам прысвечана ім, хоць і прыдумалі яе дарослыя. Мэты новай арганізацыі такія: узнавіць сувязі паміж славянскімі народамі, зрабіць магчымым сяброўства дзяцей розных краін, а таксама дзіцячыя дыпламатычныя абмены і аздараўленне дзяцей. Вось таму ў Кіеў мы збіраліся з незвычайным натхненнем, гатовыя аддаць усе свае маладыя сілы дзеля ўмацавання міжнароднага дзіцячага сяброўства. Сустрэлі нашу дэлегацыю вельмі гасцінна, пасялілі ў цудоўнай гасцініцы і правезлі з экскурсіяй па горадзе. На гэтым, напэўна, і закончылася ўсё, чаго мы маглі б чакаць. Далей пайшло непрадбачанае.

У рэстаране нас сустрэў малады чалавек з модна асветленай грыўкай, крыху манерны, але вельмі дружалюбны і вясёлы. Ён доўга вітаў нас, ляпаючы па далоні кожнага па чарзе. Не паверыце — гэта быў сам старшыня "Фундацыі" Васіль Прыходзька. Вакол яго стаялі некалькі бездакорна апранутых і вельмі "накачаных" мужчын, страшэнна падобных на мафіёзі. І чамусьці мы ўсе адначасова падумалі, што Прыходзька, хутчэй за ўсё, адзін з тых прадпрымальнікаў, якім няма куды траціць грошы, таму яны і кідаюцца ў дабрачыннасць... Ах, як мы памыляліся! Аднак гэта высветлілася потым, а тады мы пачалі сумленна выконваць сваю дыпламатычную місію.

Сам па сабе гэты дзіцячы збор быў проста унікальны. З дзесяткаў гарадоў Украіны, Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы ў Кіеў з'ехаліся таленавітыя дзеці: мастакі з гурткоў дэкаратыўнага мастацтва, што арганізавалі там проста цудоўныя выстаўкі; танцоры, спевакі, музыканты-"спецыялісты" па народных інструментах — два дні мы цешыліся іхнімі канцэртамі, пасля якіх у шумным холе канцэртнай залы адбываліся вясёлыя знаёмствы, гучалі жарты, смех, цікавыя гутаркі і дыскусіі, дзеці знаходзілі сяброў з іншых краін. І падумалася: нас, славян, раздзялілі сілаю, правялі межы, панаставілі мытняў, але мы, дзеці, пачнём усё спачатку і пазвязваем разарваныя ніці дружбы: мы далёкія ад палітыкі і інтрыг дарослых, мы ведаем толькі, што патрэбны адзін аднаму. Калі б гэта разумелі дарослыя!.. Пачакайце, але ж "Фундацыю" яны і заснавалі! І тут я цвёрда вырашыла пагаварыць са старшынёй В.Прыходзькам, даведацца, што ён за чалавек, зразумець "тайны" сэнс ягонай дзейнасці.

Калі пасля канцэрта я падышла да яго, Прыходзька нервова азірнуўся і, зрабіўшы бездапаможны твар, жаласна сказаў:

— Крыху пазней, дзеці, — зараз заняты.

І, павярнуўшыся да сваіх суразмоўцаў, усміхнуўся:

— Па начах не сплю, ды й днямі працую, думаеце, не стамляюся?

З усіх бакоў ад яго кружыліся дзіцячыя віры: вясёлыя твары, цудоўныя народныя касцюмы, усюды радасць і шчасце. А ён, арганізатар усяго гэтага, выціраючы ўзмакрэлы лоб, бег далей, вырашаючы мноства праблем. Сапраўды, ён выглядаў такім стомленым, што я вырашыла яму больш не дакучаць.

І ўсё ж тое-сёе пра старшыню новай дзіцячай арганізацыі я даведалася.

Васілю 28 год, па гараскопу Дзева, па адукацыі — хімік, раней працаваў сакратаром абкама камсамола, некаторы час быў піянерважатым у Артэку — вось што расказалі мне аб Прыходзьку яго ўпаўнаважаныя. Дарэчы, тыя самыя "вельмі накачаныя мужчыны", большасць з якіх — старыя сябры старшыні, настаўнікі. Чаму ж Прыходзька ўзяўся за гэту нялёгкую справу? Проста таму, што любіць дзяцей.

А хто любіць дзяцей, той любіць і шчаслівую будучыню, што павінна абавязкова настаць, калі мы аб'яднаем сваім сяброўствам увесь свет.

Дзеці, што выратуюць планету, — вось цудоўная будучыня "Фундацыі", будучыня, якую любіць вясёлы энтузіяст Васіль Прыходзька.

**Вольга ДЗЯЦЮК,**
**навучэнка гімназіі № 1**
**імя Ф.Скарыны.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Дзейснае слова

## Чытач пытаецца, раіць, спрачаецца. І ўсё гэта – у аглядзе пошты

□ Алена АГІБАЛАВА, "ЧЗ"

У Нюрнбергу архітэктарам Дані Караванам створаны грандыёзны мемарыял. Ён атрымаў назоў "Вуліца Правоў чалавека". Гэта 27 белых калон па восем метраў у вышыню кожная. Ізноўтакі на кожнай — тэкст аднаго з 27-мі артыкулаў Дэкларацыі правоў чалавека, прынятай ААН. Такая ява сённяшнейГерманіі. Але яна бачыцца не толькі ў грандыёзе архітэктурных збудаванняў, прысвечаных правам чалавека. Нюрнберг — горад, дзе калісьці нацыянал-сацыялісты праводзілі свае партыйныя з'езды, дзе пасля вайны, пад час якой не толькі правы — жыццё чалавечае было ўтаптанае ў бруд, прайшлі судовыя працэсы над галоўнымі нацысцкімі злачынцамі. Відаць, невыпадкова, як ганьба нацызму і ягонаму наступніку — неанацызму, менавіта ў Нюрнбергу ўзвышаецца вышэзная каланада з увасобленымі ў камені, на вякі, словамі пра свабоду і непарушнасць правоў чалавека.

Слова — таксама справа, але яно набывае асаблівую вагу, калі становіцца дзейсным. Здаецца, ад гэтых сімвалічных калон, што імкнуць свае надпісы прама ў неба ўз'яднанай Германіі, бярэ свой пачатак гэткі крок, як выдзяленне ейным урадам кампенсацыйных выплат тым, хто ў ваеннае ліхалецце гвалтоўна быў вывезены на прымусовыя работы. У выніку створаны Беларускі рэспубліканскі фонд "Узаемаразуменне і прымірэнне".

У адной з "Паштовых скрынак" нашай газеты быў змешчаны ліст пад назвай "Ці належыць кампенсацыя?". Ягоная аўтарка Таццяна Рыбкіна з вёскі Вялікія Чучавічы пытаецца ў нас, ці атрымаюць ейны свёкар, што нарадзіўся ў фашысцкай няволі, і ягоная маці, якая была з лагера ўгнаная ў Германію, выплату згодна з кампенсацыяй, выдзеленай германскім урадам. Мы атрымалі адказ з Беларускага рэспубліканскага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне". Сапраўды, як і меркавала рэдакцыя ў сваім каментары да пісьма спадарыні Рыбкінай, кампенсацыя свёкру і ягонай маці належыць, але калі яны маюць адпаведныя дакументы. Апошнія павінны сведчыць пра знаходжанне ў Германіі (яна была прымусова забраная, а ён там нарадзіўся). Калі ў вас, паважаная аўтарка запыту, гэткіх дакументаў няма, то (будзьце ўважлівыя!) "неабходна звярнуцца ў абласны Дзяржархіў ці абласное ўпраўленне КДБ па месцы жыхарства да ўгону, а ў выпадку адсутнасці звестак у гэтых арганізацыях — у Дзяржархіў Рэспублікі Беларусь (220002, г.Мінск, вул.Крапоткіна, 55), КДБ Рэспублікі Беларусь (220623, г.Мінск, пр.Скарыны, 17). Афармленне дакументаў для атрымання дапамогі са сродкаў фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" ў цяперашні час ажыццяўляецца кваліфікацыйнымі камісіямі пры гарадскіх і раённых выканкамах Саветаў народных дэпутатаў па месцы жыхарства на аснове дакументаў, якія пацвярджаюць тэрміны ўгону".

Наступны ліст — з вёскі Мазолава, што на Мсціслаўшчыне. Непрыхаваная горыч ахінае радкі пісьма Іосіфа Налівайкі. Аперацыяй па жывому, без анестэзіі, называе ён захады мясцовых палітыкаў. Крыўдна аўтару за цярплівы, шматпакутны народ, які расплачваецца за неабачлівую палітыку "гадамі нажытым дабром, а то й уласным жыццём". І ўсё гэта пад выраз, які інакш як кпін не ўспрымаецца — "іншага выйсця не было!" "У гэта немагчыма паверыць,— абураецца спадар Налівайка.— Не хочам вучыцца ў гісторыі. Не пабудаваўшы новае, рушым старое". Адсюль, лічыць аўтар, нашыя беды: разрыў эканамічных зносін, узаеманеплацяжы. Рэформы, праводзімыя ў дзяржаве, тады вартыя чагосьці, калі робяцца яны дзеля людзей, а не за іх кошт".

Шматтэмным стаўся ліст гісторыка з Гомеля Юрыя Іванавіча Клінцова. Тут і праблема жылля для моладзі, і настаўніцкі заробак, і служба ў беларускім войску. Не абдзеленыя аўтарскай увагай аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі, перадвыбарчы марафон дзеля прэзідэнцкага крэсла. Напачатку аб мары пра дах над галавой, пра тое, "што гарантавана нават нявздатнаму да працы грамадзяніну Швецыі ці Германіі". Большая частка насельніцтва рэспублікі людзей за 35 гадоў не мае ўласнай кватэры. Астатнія, амаль да пажылога ўзросту, жывуць у маласямейках. "На гэтай плошчы адначасова гуляюць дзеці, жонка глядзіць тэлесерыял "Проста Марыя" і, да прыкладу, муж-настаўнік рыхтуецца да заняткаў, каб заўтра вучыць і выхоўваць падрастаючае пакаленне грамадзян дзяржавы — будучых прэзідэнтаў, рабочых, пісьменнікаў..."

А вось радкі, што тычацца войска. У Юрыя Іванавіча растуць два сыны — будучыя вайскоўцы. "Мне патрэбны такі прэзідэнт, што стварыў бы войска, у якое я не баяўся б іх праводзіць, якім бы яны ганарыліся, а я ганарыўся імі". Пакуль што знаёмыя Ю.Клінцова кажуць, што зробяць усё магчымае, каб іхнія дзеці не пайшлі служыць у войска. Скуль такая боязь беларускага войска? Па меркаванню аўтара справа тут і ў афіцэрах-"временщиках", і ў самай вялікай для Еўропы мілітарызаванасці ("у Германіі адна бронемашына прыпадае на 23 тыс. насельніцтва, у Францыі — на 15 тыс., у Расіі — на 13, на Украіне — на 10, на Беларусі — на 4 тысячы").

Зінаіда Паўлаўна Д. з Віцебска распавяла, як у яе выкралі з сумачкі зарплату, і вялікая сям'я ў такі цяжкі час засталася без сродкаў да існавання. У аўтобуснай мітусні і таўкатні нечыя "доўгія" пальцы нячутна адкрылі "маланку" кайстры і выцягнулі неглыбока пакладзены кашалёк. Страта выявілася ў першай жа краме, куды Зінаіда Паўлаўна зайшла па пакупкі. Сумная, яна рушыла з пустымі рукамі дахаты, дзе яе чакалі дзеці. Зразумела, яны сумавалі не толькі па матулі, але й па мяркуемых, такіх рэдкіх для сённяшняй дзятвы, пачастунках... Прыйшлося звярнуцца па пазыку да суседзяў, знаёмых, супрацоўнікаў. Зінаіда Паўлаўна дзякуе ў пісьме ўсім добрым людзям, хто дапамог ёй і ейным дзецям. Бо знаёмыя (і гэта тады, калі большасць ледзь-ледзь абмяжоўвае свае патрэбы сямейным бюджэтам) сабралі хто колькі змог грошай і аддалі Зінаідзе Паўлаўне бязвыплатна ў якасці так бы мовіць матэрыяльнай дапамогі. У гэтай кароткай і горкай гісторыі, пагадзіцеся, кранальны фінал. Не кожнаму пашчасціць атрымаць гэткую падтрымку ў цяжкую часіну. Ліст Зінаіды Паўлаўны не пакідае абыякавым. Ува мне ён ускалыхнуў успаміны...

Бацька атрымаў зарплату і з гэтай нагоды ў сям'і будаваліся ўсялякія планы. Грошай тых было няшмат, то й жаданні былі дастаткова сціплымі. Больш за ўсіх рупілася аб набытках, вядома ж для нас, малых, мама. Гаворка была памяркоўнай і, зразумела, прыемнай. Разважалі, куды і калі мы паедзем па пакупкі, што нам трэба, а з чым можна й пачакаць. Неабходна было рыхтавацца да школкі, таму кожная рэч стасавалася з гэтай падзеяй. Урэшце ў адну з нядзель я разам з матуляй адправілася на раённы рынак...

Усе грошы былі пакладзеныя ў невялікую гаспадарчую сумку. Раптам мама спынілася і ейная рука пачала сутаргава абмацваць змесціва сумкі, а вочы часта-часта заміргалі і напоўніліся вільгаццю. "Абакралі",— нібы не сказала, а выдыхнула яна. У рынкавым вэрхале з увагай, адцягнутай на прылаўкі, няцяжка было аказацца лёгкай здабычай злодзея. Мама зноў і зноў шморгала рукой у сумцы, разгублена азіралася наўкола і ўтрапёна шаптала сваё — "абакралі". Вакол нас сабралася некалькі цікаўных. Яны раілі:"Вы добра, добра паглядзіце, мо ў кішэню кашалёк паклалі, так часта бывае". Вось ужо і кішэні абмацаныя, няма сумніву — грошы нібы карова языком злізала. Вось ужо й разявакі сышлі разам са сваімі парадамі і дзяжурнымі спачуваннямі. Я пачала тузаць маму за рукаў, і па-свойму, згодна з дзіцячым разуменнем, супакойваць яе: "Нічога страшнага не здарылася. Анікому крадзенае на карысць не пойдзе. Вырасту вялікая, зараблю грошы і накуплю табе ўсяго: і паліто, і шапку, і сукенак шмат-шмат, самых розных, толькі ты не плач". Паціху мы ішлі да варотаў рынку, праз якія ліліся суцэльнай ракой людскія шэрагі. Яна ціха плакала, шаптала:"Хіба ж гэта па-людску — апошняе..."

Так скончылася наша "генеральная паездка" па пакупкі. Пасля шмат чаго было... Але гэта не забылася, мо з-за няспраўджаных маіх дзіцячых абяцанкаў. "І паліто, і шапкі, і сукенкі", — так і чакаюць мяне ў крамах. Маме дастаюцца рэдкія і сціплыя падарункі. Шаноўная Зінаіда Паўлаўна, акрамя бяды, убачце і тое, што вашыя сябры далі цудоўны ўрок чалавечнасці вашым і сваім дзецям на ўсё жыццё.

Напрыканцы сённяшняга агляду пошты — пісьмо Святланы Жогаль з Віцебска. Яна расказала пра свой клас. Ён — матэматычны, але гэта гаворыць, як піша дзяўчынка, не толькі пра матэматычныя поспехі. Аднакласнікі Святланы праявілі сваю актыўнасць і ў іншых галінах дзейнасці. Марына Печань на чэмпіянаце Беларусі па шашках заняла 1-е месца. Саша Лёвушкін вызначыўся на спаборніцтвах па тэнісу і паехаў на абласныя спаборніцтвы. Аляксей Барышаў заняў 3-е месца на абласной алімпіядзе па матэматыцы і накіраваны на алімпіяду Беларусі. Вікторыя Лісянкова ўдзельнічае ў рэспубліканскім чэмпіянаце бальных танцаў. І сама Святлана імкнецца не адставаць ад сваіх аднакласнікаў — ходзіць у мастацкую школу. Вось які ён, маленькі 8 "А". Хто ведае, якія знакамітасці вырастуць на ягонай глебе?

Шчырае дзякуй нашым чытачам за лісты, за веру ў газету, у ейныя сілы і, як заўсёды, паўтараем — чакаем новых пісьмаў.



ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## БАСТУЕ І ПАЛІЦЫЯ

*У Бразіліі аб'явіла забастоўку федэральная паліцыя.*

Прэзідэнт краіны Ітамар Франко сваім дэкрэтам увёў войскі ў сталіцу і ў шэраг іншых гарадоў. Салдаты блакіравалі паліцэйскія ўчасткі.

## У ПРЭТОРЫІ – НОВЫ ЎРАД

*Паводле паведамленняў з Прэторыі, новы прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай рэспублікі Нэльсан Мандэла закончыў фарміраванне ўрадавага кабінета, уключыўшы ў яго лідэра зулускай арганізацыі "Інката" Бутэлезі і двух яго прыхільнікаў.*

Кабінет складаецца з 27 міністраў. Васемнаццаць прадстаўляюць АНК, шэсць з'яўляюцца членамі кіруемай дэ Клеркам нацыяналістычнай партыі. Ва ўрад уключана таксама Віні Мандэла, былая жонка новага прэзідэнта.

## "ЗВАНОК" МЭЙДЖАРУ

*Большасць тых брытанцаў, якія на выбарах галасуюць за кансерватыўную партыю, лічаць, што прэм'ер-міністру Джону Мэйджару трэба пайсці ў адстаўку.*

Такія даныя апытання, што правёў Інстытут Гэлапа.

## НЕБЯСПЕЧНАЯ ВАГА

*У сістэме аднаго з прадпрыемстваў па перапрацоўцы ядзернага паліва, якое размешчана на поўнач ад Токіо, сабралася ўжо 70 кілаграмаў плутонію.*

Гэтага хапіла б на дзевяць атамных бомб. Работнікі прадпрыемства адмаўляюць уцечку плутонію, але прыборы, якія замяраюць радыеактыўнасць матэрыялаў, маюць дапушчальную памылку, таму з сістэмы можна непрыкметна ўзяць дастатковую колькасць плутонію для стварэння бомбы.

## САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ РЭВАНШ?

*У Венгрыі на выбарах у Дзяржаўны сход краіны сацыялісты — наследнікі камуністаў-рэфарматараў эпохі Янаша Кадара — атрымалі 33 працэнты галасоў.*

Гэта на адзінаццаць працэнтаў больш, чым чатыры гады назад.

## А ЧЭХІ – ПЕРШЫЯ

*Як заявіў намеснік дзяржсакратара ЗША Строўб Тэлбат, у бліжэйшы час Вашынгтон плануе скараціць аб'ёмы дапамогі некаторым усходнееўрапейскім краінам, а потым поўнасцю перапыніць праграмы садзеяння.*

Паводле слоў Тэлбата, першай краінай, якая не будзе атрымліваць дапамогу з ЗША, стане Чэшская Рэспубліка. За ёй могуць паследаваць Эстонія, Польшча і Венгрыя.

## "РАЗМАРОЖВАЦЬ" РАНА

*Размешчаная ў Жэневе Камісія ААН па кампенсацыі накіравала ў Савет Бяспекі пісьмо, у якім гаворыцца, што планы Турцыі зліць і выкарыстаць нафту з іракска-турэцкага нафтаправода парушаюць рэзалюцыі аб кампенсацыі ахвярам вайны ў Персідскім заліве.*

Нафтаправод быў "замарожаны" з моманту іракскага нашэсця ў Кувейт амаль чатыры гады назад. У ім знаходзіцца каля 12 мільёнаў барэляў нафты.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

---

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ

**16 – 22 мая**

### ЦЯЛЕЦ

На пачатку тыдня стабілізуецца становішча на працы. Спрыяльны час для бізнесу. Пазбягайце канфліктаў у сям'і.

Эканомце сілы і беражыце нервы ў чацвер. Поспех у каханні.

Паляпшэнне фінансавага становішча ў нядзелю. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

### БЛІЗНЯТЫ

Не ўвязвайцеся ні ў якія грашовыя афёры ў аўторак. Пастарайцеся не сварыцца з супрацоўнікамі.

Асцерагайцеся выпадковых знаёмстваў у сярэдзіне тыдня.

Суботу правядзіце як мага спакайней. Займіцеся спортам. Будзьце актыўнымі ў каханні.

### РАК

Пастарайцеся не сварыцца з ахоўнікамі парадку ў аўторак. Не рызыкуйце ў фінансавай сферы.

Чацвер спрыяльны для інтымных адносін.

Атрымаеце добрыя навіны ў выхадныя. Магчымы грашовыя паступленні. Не прымайце ніякіх важных рашэнняў.

### ЛЕЎ

У панядзелак займіцеся хатнімі справамі. Верагоднасць непрыемных выпадковасцей. Удзяліце ўвагу сваім дзецям. Наведайце царкву.

Можаце рызыкаваць у бізнесе ў сераду. Сардэчныя справы нармалізуюцца.

У выхадныя вам лепш выехаць на прыроду. Некаторым пашанцуе ў фінансавай сферы. Не злоўжывайце алкаголем.

### ДЗЕВА

У першыя дні тыдня звярніце ўвагу на сваю нервовую сістэму. Пастарайцеся зразумець каханага.

Не адкладвайце на іншы час тое, што можна зрабіць у сераду. З'явіцца шанц на поспех у грашовай сферы. Спрыяльны час для заняткаў спортам.

Не плануйце ніякіх рашучых крокаў на суботу. Лепш перачакайце. Сардэчныя справы нармалізуюцца.

### ШАЛІ

Звярніце ўвагу на сваё здароўе ў аўторак. Пазбягайце спрэчак з супрацоўнікамі.

У чацвер не праяўляйце залішнюю актыўнасць у бізнесе.

У выхадныя захоўвайце асцярожнасць у новых знаёмствах.

### СКАРПІЁН

Наведайце сваіх сяброў у панядзелак. Не выключана цікавае знаёмства. Не давярайце нікому сваіх інтымных праблем.

Пастарайцеся не планаваць ніякіх рашучых дзеянняў у фінансавых аперацыях у сераду. Не перанапружвайце свае нервы.

У суботу рызыкуйце ў бізнесе. Атрымаеце цудоўныя навіны.

### СТРАЛЕЦ

На пачатку тыдня пазбягайце выпадковых знаёмстваў. Будзьце асцярожнымі ў фінансавай сферы.

Уважліва сачыце за ўсімі навінамі ў чацвер. З'явіцца верагоднасць рэалізацыі вашых планаў. Не лепшы час для эротыкі.

Пастарайцеся не згубіць кашалёк у суботу. Больш часу правядзіце на свежым паветры.

### КАЗЯРОГ

Не прымайце ніякіх паспешлівых рашэнняў у панядзелак. Займіцеся спортам.

Серада прынясе шмат пачуццёвых радасцей. Не выключана цікавае знаёмства. З'явіцца шанц на поспех у фінансавай сферы.

У суботу некаму з родных будзе патрэбна ваша дапамога. Пастарайцеся ажыццявіць усё, што плануеце.

### ВАДАЛЕЙ

На пачатку тыдня спрыяльны час для вялікіх здзелак. Устрымайцеся ад паспешлівых рашэнняў. Сур'ёзна абдумвайце сваё паводзіны на працы. Беражыце сэрца ад хваляванняў.

У чацвер у вас паявяцца новыя інтарэсы. Пазбягайце ўсялякіх плётак.

Магчыма цудоўнае падарожжа ў нядзелю. Верагодны поспех у сардэчных і фінансавых справах.

### РЫБЫ

У панядзелак стабілізуецца становішча ў бізнесе. Перагледзьце сямейныя справы. Пастарайцеся не сварыцца з каханым.

Чацвер спрыяльны для заняткаў спортам. Захоўвайце высокі ўзровень энергіі на працы.

Не ўвязвайцеся ні ў якія рызыкоўныя мерапрыемствы ў выхадныя.

### АВЕН

Магчымы фінансавы поспех у аўторак. Не злоўжывайце алкаголем.

У сераду ўдача ў асабістым жыцці. Рызыкуйце ў бізнесе. Больш дыхайце свежым паветрам.

У суботу – удача ў грашовай сферы.

---

ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# Спявай, гітара звонкая...

□ Алег ШВЕДАЎ

*На пачатку г.г., у пярэдадзень пятай гадавіны вываду савецкіх войск з Афганістана, у Мінску пад "патранажам" народнага артыста рэспублікі Ігара Лучанка прайшоў другі рэспубліканскі фестываль афганскай песні. Сярод яго ўдзельнікаў была адзіная жанчына — маладая настаўніца з Рагачова Алена ЗАЙЦАВА. Яна стала лаўрэатам і заняла другое месца сярод выканаўцаў. З гэтай нагоды мы і сустрэліся з Аленай.*

**— Лена, вы настаўніца. А песня — гэта хобі, як модна гаварыць?**

— Так, у свой час я закончыла Мазырскі педінстытут і ўжо колькі год працую настаўніцай малодшых класаў. Што ж да песні, то з ёй у мяне сяброўства з дзяцінства. У Рагачове (дарэчы, гэта мой родны горад) закончыла музычную школу, спявала ў ансамблі. Пазней "занялася" гітарай.

**— Прабачце, але, мне здаецца, гітара інструмент больш мужчынскі...**

— А што, існуе падзел інструментаў па тым, каму на іх іграць?

**— Не. І ўсё ж...**

— Гітара — інструмент для тых, у каго душа спявае. Дарэчы, на фестывалі я ў гэтым пераканалася ў чарговы раз. У чалавека, можа, няма асаблівых музыкальных і вакальных даных, затое ў яго ёсць неадольная прага да песні. Гэта не перадаць словамі, гэта трэба адчуваць.

**— Чаму менавіта афганскую песню вы абралі, так бы мовіць, аб'ектам сваіх вакальных здольнасцей?**

— Зусім не. Мне вельмі падабаюцца рамансы — гітару без раманса наогул цяжка ўявіць, народныя песні і сённяшнія шлягеры. І, вядома, афганскі рэпертуар. Проста, калі так можна сказаць, у афганскай песні мяне больш заўважылі.

**— А раней не заўважалі?**

— Чаму ж. Я ўдзельнічала ў розных конкурсах. У тым ліку і ў тых, што праводзіліся ў былым СССР. Не скажу, каб хапала там зоркі з неба, але пэўныя ўдачы выпадалі і мне.

**— Цікава, Лена, ці ўзгадваецца вам фестываль зараз, калі прайшоў ужо час пасля яго, які пакінуў ён след у вашай душы?**

— Па-першае, я займела шмат новых сяброў. Па-другое, фестываль быў для мяне вялікай творчай школай. Некалькі сваіх песень мне падарыў самадзейны кампазітар і бард з Калінкавіч Яўген Бабіч. Адну з іх — "Дзве гадзіны да дэмбельскага рэйса" — я ўжо напела, выконваю для сваіх сяброў, знаёмых. Гавораць, нібыта нядрэнна. Пасябравала таксама з вядомым "афганскім" ансамблем "Саланг".

**— І што далей? Вы думаеце якнебудзь прапагандаваць сваю творчасць?**

— Ведаеце, я не прыхільніца грандыёзных планаў. Што атрымаецца, тое і маё. Спадзяюся прыняць удзел у наступным такім конкурсе. А пакуль працую ў школе, вучу дзетак. У тым ліку і ігры на гітары — кірую школьным гуртком гітарыстаў. Яшчэ я прэзідэнт гарадскога клуба маладых настаўнікаў. Дарэчы, там вельмі патрэбны мае вакальныя здольнасці. Расшавяліць народ у наш час не проста.

**— У тым ліку і маладых настаўнікаў?**

— І іх таксама, што вы думаеце. Шмат у нас, сённяшніх, інертнасці, абыякавасці. Я разумею, асаблівых падстаў для таго, каб весяліцца і спяваць сёння, як быццам бы недастаткова. І ўсё ж аддавацца раўнадушшу, мяркую, таксама не лепш.

**— Лена, ці шмат у Рагачове прыхільнікаў гітары?**

— Не. Усё больш на такім, я б сказала бытавым, узроўні. А гітара ж патрабуе да сябе, безумоўна, большага. На жаль, такая тэндэнцыя ўласціва і для Гомельшчыны, і для рэспублікі. Дарэчы, пра гэта таксама гаварылася на фестывалі. Будзем спадзявацца, мо з часам нешта зменіцца ў лепшы бок...

**НА ЗДЫМКУ: дыпламант другога рэспубліканскага фестывалю афганскай песні Алена ЗАЙЦАВА.**

**Фота М.РУДЗЬКОВА.**

---

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

# Недзіцячыя гульні

Толькі што скончыўся ўрок матэматыкі ў чацвёртым класе. Дзіма Паўлаў дастаў з партфеля чорны пластмасавы пісталет. Азірнуўшыся па баках, накіраваў дула ў жывот суседа па парце. Раздаўся "выбух"...

Вучні загаманілі.

— Дай пастраляць, — папрасіў Сяргей.

— Гані валюту.

— Во яшчэ выдумаў!

— Тады двух "зайцоў".

— Згодзен.

Жадаючых пастраляць знайшлося шмат. Да канца перапынку ў Дзімы было амаль што 200 рублёў.

На наступны дзень у нашага "героя" з'явіліся канкурэнты. Віця прынёс у школу пустыя гільзы ад аўтамата: пачаў гандляваць. Штука — дзесяць рублёў. Незвычайны тавар карыстаўся папулярнасцю — да канца дня ніводнай гільзы ў Віці не засталося, затое ў кішэнях шамацелі грошы.

Праз нейкі час клас ператварыўся ў базар. На перапынках прадаваліся і купляліся значкі, медалі, пластмасавыя машынкі, салдацікі, наклейкі, каляровыя блакноты, бляшанкі з-пад піва... І адкуль толькі ў дзяцей браліся грошы?!

Зразумела, там, дзе пануе бізнес, з'яўляецца і рэкет. Першым адчуў на сабе яго моцныя кулакі той самы Дзіма, які на перапынках зарабляў больш за іншых. Калі ён ішоў з заняткаў, на яго напалі пяцікласнікі, збілі з ног і адабралі грошы. Было балюча і крыўдна. Дзіма нікому не сказаў, а вырашыў сам знайсці сабе абарону. Ён прапанаваў двум хлапчукам са свайго ж класа, каб яны сталі яго целаахоўнікамі. І не за "дзякуй вялікі", а за тыя ж самыя грошы, якія зарабляў "пачынаючы бізнесмен".

Даведаўся я пра гэту гісторыю ад свайго былога аднакласніка Андрэя, малодшы брат якога вучыцца ў тым самым чацвёртым класе. Падумалася: нам, былым вучням, і ў галаву не прыходзіла гандляваць у школе. Мы прыносілі ў клас цацкі, гульні, маркі і абменьваліся імі паміж сабой. Проста так, за "дзякуй". Не магу таксама прыгадаць выпадак, калі б хто-небудзь адабраў бы ў кагосьці рубель-другі, які маці дала на марожанае ці пірожнае.

А зараз што робіцца? Я не думаю, што гэта добра, калі дзіця з чацвёртага класа пачынае "зарабляць" сабе грошы такім чынам.

**Аляксандр ГРАДЗЮШКА,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ,**
**пазаштатны карэспандэнт "ЧЗ".**

---

КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# Мне нельга на волю

□ Леанід МАТРАШЫЛА,
падпалкоўнік міліцыі

Пачатак быў, увогуле, звычайны. Хлапчук Коля ішоў са школы дадому...

Па дарозе яго сустрэлі тры такія ж хлапчукі і... моцна пабілі. Адзіны сведка — васьмікласнік Сяржа В. Ён, уласна, падняў і прывёў збітага Колю дадому. Шчыра расказаў, як усё было, як выглядалі хуліганы. Нават назваў прозвішча аднаго з іх — Віці Н.

Аднак размовы з Віцем, яго сябрамі, бацькамі пераканалі, што той не мае дачынення да здарэння. Пошук злачынцаў зацягваўся.

Колева настаўніца, калі я чарговы раз зайшоў у школу, каб пагаварыць з ёй, далікатна сказала: "Можа гэта не тычыцца справы, але ўчора да Колі прыйшоў Сярожа В. (яна назвала прозвішча) з восьмага класа і паклікаў яго з сабой. Коля нават з твару змяніўся, заплакаў і збег са школы".

Урэшце, выявілася, што збіў Колю той самы Сяргей, які лічыўся "адзіным сведкам".

Памятаю, Сяргей зайшоў у кабінет сакратара камісіі па справах непаўналетніх з такім абуральным выглядам, што я здзівіўся. Быў ён высокі, але вельмі неахайны.

Хлопец, не чакаючы пытанняў, пачаў скардзіцца, што яго дарэмна абвінавачваюць, што Колю ён не біў, маўляў, толькі штурхнуў, і той паваліўся. Пачуцця віны, раскайвання, няёмкасці ў яго не было.

Старшыня, перагледзеўшы справу, спытаў, чаму ён не ходзіць у школу, часта не начуе дома, б'е меншых.

— Ды проста так, — адказаў Сяргей.

Было бачна, ён не спалохаўся. А выходзячы, амаль закрычаў: "Буду вучыцца, буду! Толькі накіруйце мяне хутчэй куды-небудзь!" — і раптам заплакаў.

Як і любога выхавальніка, мяне цікавіў не столькі сам факт, як прычыны яго. Хлопец кінуў школу, начаваў у хлявах, хуліганіў, пакуль не трапіў у камісію па справах непаўналетніх. Вядома, адправілі б у спецвучылішча, ды і ўсё тут.

Але яго апошнія словы і слёзы... Што гэта? Крыўда або сорам? І чаму, у сям'і ж быццам усё нармальна, а хлапчук не хоча быць дома?

... Раней яны жылі ўтрох. Бацька амаль кожны дзень прыходзіў дадому п'яным. Сварыўся, біў сына за любую дробязь. А аднаго разу п'яны збіў чалавека і трапіў на лаву падсудных. З калоніі прысылаў пісьмы-споведзі. Маці чытала іх, хаваючы слёзы, а Сяргей не разумеў, чаму яна плача - без бацькі ж зараз так добра: ніякіх сварак.

Гэта страшна, калі так пачынаецца юнацтва. Час ішоў. Для Сяргея маці стала самым блізкім чалавекам.

І раптам усё змянілася. Маці неяк прывяла ў дом мужчыну. Іван Пятровіч (так таго звалі) стараўся пасябраваць з Сярожам. Але не ж... А калі ў Сяргея нарадзілася сястра, ён наогул адчуў сябе адзінокім. Дамоў не спяшаўся. Навошта? Начаваў у суседскім хляве. Ні маці, ні класны кіраўнік нават не спрабавалі зразумець: што з хлопцам?

Аднаго разу, бадзяючыся ля вакзала, Сярожа пазнаёміўся з мужчынам без пэўных заняткаў. Выпівакам. Сам пачаў выпіваць.

Я пасля камісіі размаўляў з ім. Ён сказаў мне ў канцы размовы: "Супакойце мяне, мне вельмі дрэнна... Скажыце, мяне накіруюць у спецвучылішча... Не хачу туды, дапамажыце!.."

Але, што я мог зрабіць? Камісія накіравала яго ў спецвучылішча, але шмат што ўлічваючы, палічыла пакаранне ўмоўным. Яму паверылі, далі магчымасць выправіцца. Ён застаўся дома.

Маці расказвала: "Для нас было цяжка, што Сяргей застаўся дома." Ён не ведаў, куды сябе падзець. Днямі ні з кім не размаўляў, плакаў. Баяўся ісці ў школу. Яго перавялі ў іншую. Скончыў. Пасля не захацеў у ПТВ. Айчым уладкаваў яго аўтаслесарам на аўтабазу.

Мне захацелася сустрэцца з Сяргеем, ужо юнаком. Ён вельмі змяніўся за гэтыя гады. Перада мной стаяў моцны хлопец з непрыемным халодным поглядам. Я ведаў, што яго выклікаюць у суд. Спытаў пра гэта. Той адказаў, што на гэты раз сведкам. Я ведаў, быў крадзёж, але сапраўды, ці меў Сяргей да яго дачыненне?..

Пасля ён сказаў, што па справе закончана следства, і насцярожыўся, чаму раптам я праз столькі гадоў ім зацікавіўся. Маўляў, вы па-ранейшаму такіх, як я быў, перавыхоўваеце?

Адказаў, што так, спрабую дапамагаць падлеткам. Я некалі верыў, што ты станеш іншым, спадзяваўся, што будзеш, як кажуць, чалавекам.

— Не сумнявайцеся, — сказаў ён. Так і ёсць. Школу скончыў. Працую. Атрымаў вадзіцельскія правы. Шмат добрага было за гэтыя гады. Так што?..

— А што ў цябе за душой, калі так? — спытаў я.

— За душой? Калі глядзець з вашага пункту гледжання — пустата. Такіх, як я, ведаеце зараз колькі? Прайдзіце, скажам, па праспекце, і вы ўбачыце, колькі там бадзяецца людзей, хаця, здаецца, усе справай заняты. Напрыклад, адзін мой сябар дзяцінства кветкі прадае, другі — парнухай гандлюе, трэці... Але, так кожны, хто хоча прыгожа жыць. А гэта не забаронена. Вось так! Сёння да гэтага нікому няма справы.

Можа быць Сяргей у свае словы не ўкладваў ніякага асаблівага сэнсу, проста машынальна паўтараў чужое, але ж...

Мінула яшчэ некалькі месяцаў. І вось аднаго разу я даведаўся, што Сяргея затрымала міліцыя ў сувязі з кватэрнай кражай — абвінавачваўся ў крадзяжы відэамагнітафона. Ён — у следчым ізалятары. Кіруюся туды. Размаўляем.

— Я не збіраюся перад вамі апраўдвацца, — сказаў ён. — Што зрабіў, тое і зрабіў. Так атрымалася. Не было іншага выйсця.

— Будзеш прасіць на судзе, каб пакінулі на волі?

— Не, не хачу, — адказаў ён.

— Чаму?

— Мне трэба спыніцца... Устрымацца, ад усяго, да чаго цягне. Ад музычнай апаратуры, ад грошай, інакш зноў "залягу" і па-буйнаму. Нельга мне на волю.

Гэта было нечакана. Ён казаў, што і калоніі баіцца, і волі... Адным словам, пастка... Што хацеў, тое і атрымаў.

Ці асвядомленыя, шчырыя былі яго словы?...

Праз некалькі месяцаў быў суд. Побач з Сяргеем на лаве падсудных сядзеў яго новы сябар. Усё было знаёма: і ўзаемная непрыязнасць, і спроба спіхнуць віну на іншага.

— Дык што ж зараз, Сяргей? — спытаў я пасля суда.

— Падумаю, — няпэўна адказаў ён. — Але, у мяне на гэта будуць цэлыя тры гады. — А потым нечакана: — Маці ўбачыце? Як думаеце, ці будзе прыязджаць?

— Не ведаю. Напэўна, калі захочаш, калі будзе да каго.

У апошняе я ўкладваў дакладны сэнс: старайся, калі так, стаць чалавекам.

Сапраўды, шмат было страчана. І што ж засталося ў душы? Ці адродзіцца яна? І ці зможа што добрае даць блізкаму чалавеку? І наогул, што будзе з Сяргеем?

---

МОВА ЗЯМЛІ

# Драгічын

□ А.РОГАЛЕЎ,
кандыдат філалагічных навук

*Назву гэтага райцэнтра Брэсцкай вобласці традыцыйна тлумачаць пры дапамозе этнічнага імя "дрыгавічы". Даследчыкаў спакушае пэўная сугучнасць двух найменняў — этнічнага і геаграфічнага. Але ж сугучнасць гэтая перш-наперш няпоўная, а па-другое, цалкам выпадковая.*

Структурна-словаўтваральныя асаблівасці назвы Драгічын (наяўнасць адавочнага суфікса -ын) паказваюць, што этнонім у яе аснове не ляжыць. Аўтар гэтых радкоў спецыяльна займаўся вывучэннем геаграфічных назваў, утвораных ад этнічных імёнаў. Дык вось сярод гэтых так званых этнатапонімаў няма ніводнага наймення з суфіксам -ін ці -ын.

Калі мы сустракаем назву, напрыклад, Мазурына (вёскі Браслаўскага, Міёрскага, Шумілінскага раёнаў) ці Латышына (фальварак былога Полацкага павета), то яны хутчэй за ўсё азначаюць, што адпаведныя населеныя пункты заснаваў нейкі чалавек па мянушцы (прозвішчы) Мазур, Латыш ці што гэтыя пасяленні належалі Мазуру, Латышу.

Суфікс -ін, ын, той жа, што і ў назве Драгічын, часцей за ўсё якраз і ўказваў на прыналежнасць. Ёсць і выключэнні. Напрыклад, суфікс -ін, -ын у геаграфічных найменнях Столін, Брагін, Кобрын меў іншае значэнне, у прыватнасці тапаграфічнае. Але гэта менавіта выключэнні.

У найменні Драгічын "закансервавана" верагоднае асабовае імя ці хутчэй мянушка Драгіта, Драгута. У сваю чаргу карані гэтай мянушкі ў двухасноўнага славянскага імя Драгамысл, Драгаслаў, Драгавіт ці Драгабуд з першай часткай Драг-, Дрог- у значэнні "дарагі, любы". У паўсядзённым ужыванні такія даволі груваcткія імёны скарачаліся, усякаліся, галоўным чынам, за кошт другой часткі. У выніку ўтвараліся ўсечаныя памяншальна-ласкальныя ці павелічальныя мадэлі імёнаў — мянушкі, якія ў далейшым маглі пераходзіць у прозвішчы. Напрыклад, у сучаснай балгарскай мове ўжываюцца двухасноўныя імёны Драгамір, Драгаслаў, Драгалюб, але ўжываюцца і скарочаныя варыянты гэтых імёнаў — Драган, Драго, Дражко. Сярод беларускіх прозвішчаў сустракаюцца такія — Драгун, Драгуль, Драган. Думаецца, што гэтыя прозвішчы маюць такое ж паходжанне, як і нагаданыя балгарскія скарочаныя формы Драган, Драго, Дражко.

Але вернемся да геаграфічнай назвы Драгічын. Існуюць пэўныя падставы меркаваць, што гэтая назва ўзнікла ў заходнеславянскім моўным асяроддзі, паколькі ў ёй адлюстравана нехарактэрнае для ўсходнеславянскіх моў няпоўнагалоссе, гэта значыць Драг- ці Дрог— замест Дараг-, Дорог-, Дарагічын. Акрамя таго, назва райцэнтра Брэсцкай вобласці з'яўляецца верагодным "перанесеным" тапонімам. Яе прынеслі з сабой перасяленцы, якія рухаліся з захаду — з тэрыторыі сучаснай Польшчы.

Там, на землях Падляшша, існуе яшчэ адзін, як можна меркаваць, першасны тапонім Драгічын (горад, сёння ў складзе Беластоцкага ваяводства). Менавіта назва падляшскага Драгічына і ўтварылася ад верагоднай мянушкі Драгіта, Драгута. А потым у гатовым выглядзе, у форме Драгічын, "перавандравала" на ўсход, за раку Мухавец, дзе і ўзнікла яшчэ адно паселішча з падобнай назвай.

Двухасноўныя імёны з першай часткай Драг- не былі характэрнымі для ўсходнеславянскай тэрыторыі. Імя "Даргабонд" ("Дрогобуд") вядома сярод палабскіх, паморскіх славян. Ці не ўцекачы з міжрэчча Лабы (Эльбы) і Одры (Одэра), якія ратаваліся ад германскіх захопнікаў, заснавалі польскі Драгічын, а, магчыма, і беларускі (сучасны райцэнтр Брэстчыны)? Польскі Драгічын згадваецца ўпершыню ў 1177 годзе, а беларускі — у 1452 годзе (згадванне і час заснавання паселішчаў, як правіла, не супадаюць).

Увогуле падляшскі Драгічын размешчаны на тэрыторыі, дзе адчуваецца значны ўсходнеславянскі (беларускі) моўны ўплыў. Невыпадкова ў 1510 і 1567 гадах назва горада зафіксавана ў форме "Драгічын". Ці не можа гэта служыць пэўным доказам усходнеславянскага, а не заходнеславянскага паходжання назвы Драгічын?

Не выключаны і яшчэ адзін варыянт тлумачэння. Польскі даследчык Я.С.Атрэмбскі лічыў, што ў назве Драгічын адлюстравана... яцвяжскае асабовае імя Даргут ("Драгічын — мясцовасць, якая належыць чалавеку па імені Даргут"). Польскі вучоны зазначае, што асабовае імя "Даргель" было вядома ў прусаў; ён жа ўказвае на польскія імёны "Дрогомысл", "Дроговіт" і на паўднёварускае імя "Дорогобыть", ад якога ўтварылася найменне горада Драгобыча ў Прыкарпацці. Аб яцвяжскіх вытоках Драгічына (падляшскага) сведчыць і заўвага польскага гісторыка Я.Длугаша, які назваў гэты горад "першай і самай галоўнай крэпасцю народа яцвягаў".

---

# КРЫЖАСЛОЎ



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Ласунак. 4. Поўнае падпарадкаванне чужой волі, уплыву. 7. Графічны паказ сардэчнай дзейнасці. 9. Рэчыва белага колеру, будаўнічы матэрыял. 10. Адзінка падліку пісчай паперы. 11. Невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу. 13. Малочная страва з дробных мучных камячкоў. 14. Прыбор для рэгулявання сілы току. 15. Грамадскі і палітычны дзеяч. 17. Прэпарат для знішчэння пустазелля ў садах, на кукурузных палях, разнавіднасць гербіцыдаў. 19. Пучок пянькі або кудзеля для ўшчыльнення, заканапачвання чаго-небудзь. 20. Сорт паўднёвай яблыні. 22. Каштоўная папера, або Дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты. 23. Пакрыццё выдаткаў, страты. 24. Навуковая праца. 25. Вечарынка з пітвом і частаваннем, ці Збор маладых для гульняў, танцаў і іншых забаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Лакаматыў з паравым рухавіком. 2. Спосаб ацэнкі, крытэрый ці адпаведны размер чаго-небудзь. 3. Літаратурны жанр. 4. Спіс, пералік чаго-небудзь. 5. Нямецкі кампазітар, піяніст, дырыжор, аўтар "Венгерскіх танцаў". 6. Перапынак. 7. Тытан ці электранагравальная прылада. 8. Паступовае зніжэнне вартасці машын, будынкаў, інструментаў у выніку зношвання. 11. Рэзкі гук, які ўзнікае пры трэнні частак прадмета. 12. Еўрапейская дзяржава. 15. Суадносіны валют розных краін у золаце. 16. Род коўдры для грудных дзяцей ці паштовы пакет. 17. Беларускі гісторык і археолаг, аўтар артыкулаў "Легенда пра Магілёў, "Гісторыя Мінска". 18. Рака на граніцы паміж ЗША і Канадай. 21. Паста, соус з памідораў. 22. Рака, левы прыток Сожа.

Даслаў Віктар СУХАРАЎ, г.п.Бялынічы.

## Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў N 41

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 7. Шаршатка. 8. Адменнік. 10. Баркарола. 11. Тарпа. 13. Сайга. 15. Закалец. 17.Балака. 18. Уладар. 19. Лямант. 20. Следчы. 24. Дбанне. 25. Кантар. 26. Таптуха. 29. Аракс. 31. Ветах. 32. Малінаўка. 33. Цырульня. 34. Журавіны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Гаспадар. 2. Фарба. 3. Скарга. 4. Адмоўе. 5. Верас. 6. Сіваграк. 9. Талака. 12. Працяжнік. 14. Апалчэнне. 15. Запавет. 16. Цукерка. 21. Аберацыя. 22. Тытунь. 23. Забабоны. 27. Атлант. 28. Хаўрус. 30. Смала. 31. Вагар.

## Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў N 49

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Фартуна. 7. Колычаў. 9. "Баграціён". 10. Група. 12. Таран. 14. Гросман. 16. Таўро. 17. Астра. 18. Котлін. 19. Буфала. 21. Басон. 22. Ларга. 24. Дросель. 27. Мафія. 28. Сякач. 30. Непарадак. 31. Дэбітор. 32. Набокаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Лазарэт. 2. Журба. 3. Блінт. 4. Застава. 6. Ангар. 7. Кніга. 8. Гарсэт. 11. Паўлоўскі. 13. Артылерыя. 14. Готланд. 15. Надфіль. 20. Гусары. 21. Блантэр. 23. Абардаж. 25. Рупар. 26. Ладан. 27. Яноты. 29. Скіба.

